УДК 821.161.3-1
ББК 84(4Беи)-5
Б99

**Бялячыц, Р.**

Б99 Вяртанне пчалы : вершы, паэма / Рычард Бялячыц. — Мінск : Кнігазбор, 2016. — 140 с.
ISBN 978-985-7144-28-0.

Новая кніга паэзіі Рычарда Бялячыца максімальна набліжана да чытача размовай пра духоўнае ў жыцці, пра лёсавызначальныя часіны ў гісторыі Бацькаўшчыны. Асобны раздзел прысвечаны тэме кахання, далёкага і блізкага, шчаслівага і расстайнага. Паэма «Вяртанне пчалы» гучыць шчырай данінай памяці мінуламу Шчучынскага краю, сваёй Айчыне.

**УДК 821.161.3-1**
**ББК 84(4Беи)-5**

**ISBN 978-985-7144-28-0**



# Фрэскі нябёсаў

## *НАНОВА*

*Наша светлае слова Радзіма,*
*Што,*
*Як першыя мары цвілі,*
*Па зямлі васільковай вадзіла,*
*Па крывіцкай спрадвечнай зямлі.*

*Ні ў гарах незнаёмых суровых,*
*Ні ў ільдзінах бясконцых*
*Ніяк*
*Не павымерзне смак папяровак,*
*Сырадою не скончыцца пах.*

*І прыходзіць Радзіма нанова,*
*Ціхім словам усходзіць штодзень.*
*А міне мой узрост калярровы —*
*Ухаплюся за свежы прамень.*



## СЛОВА

Думалася шмат разоў расстацца
Ў час, калі самотнічаў адзін.
Не распачынаць ні слоў, ні свята,
Пульсам не лічыць чужых хвілін.

Жыў душой і думкамі няблізка
На выратавальным скразняку.
Ды вярталі росы да дзяцінства
І будзіла сонца за руку.

А калі, здавалася, на карку
Пааселі хмарамі гады,
Ты ізноў праходзіла па парку
І дразды вярталіся сюды.

Кроплямі спадаў світанак шэры,
Цэлячы ў акно маё,
Але
Я шукаў абрывачак паперы
І аловак згрызены ў стале.

Проста без заморскага карала,
Покуль спёка, лівень ці слата,
Маці
Гэтым словам дакарала,
Ім жа слала,
Покуль сын лятаў.

## МАЦІ

Прыпомнілася лёгка за гарой,
Нястрымныя і палкія калі мы:
І Богу даставалася парой,
Як быў, па-твойму, ён несправядлівы.

І хоць сябе сустрэну аднаго
Цераз лясоў і зораў агароджу,
Калі няма спадзеву на каго,
У затравелы двор,
Як здань, прыходжу.

За будучым не ўгнацца аніяк
І ў даўняе адсюль не дацягнуцца.
Мяне ўздымае скрыўлены бальшак
Нябеснай сілай
Проста ад настурцый.



## ДА СВЯТА

Вачэй святое падабенства
Ўваскрэсіць мы з табой змаглі.
І дзень,
І год,
І век пісьменства
Ідзе па нашае зямлі.

А за блакітам, кажуць, ціша,
А за душой — цяпло, святло.
Па небе свой радок напішам,
Глядзіш — па Нёмане сплыло.

Так час прыйшоў,
І ты паверыў,
Што Бог ад глуму засцярог,
Што дзень за днём адчыняць дзверы
І ступім мы на свой парог.

## У ПАМЯЦЬ ПРА ЛЮДВІКА НАРБУТА

Апошні бой.
Усе сплываюць фарбы
За красавіцкі едкі чорны дым.
Яшчэ не пахаваны Людвік Нарбут,
Яшчэ душа пакутуе над ім.

Ледзь па бярозе занялося лісце,
Павесялеў ля Берштаў сонны звер,
Яшчэ Ганэлькі*
Толькі засталіся,
Што помняць бой апошні і цяпер.

Лясы заўжды жывуць напагатове,
У кронах дух бунтарскі не зачах.
Жалезны крыж
Ля пушчы Нарбутовай
Трымае неба наша на плячах.

* Вёска, дзе канчаткова быў разгромлены атрад Л. Нарбута.



## ДУДКІ́

Тут самабытнай быць красе,
Нязводнай, добрай, чуткай.
Дудкі, Дудкі…
Дудзяць усе,
Што вы пайшлі ад дудкаў.

Дубы стаяць яшчэ пакуль,
Буслам патрэбныя парою.
Чувацца, граюць аж дасюль
Два хлопцы пад гарою.

Адзін з іх — я,
Другі з іх — ты.
Вянок па-над дзяўчынай.
Стаяць у доле чараты
За хаткаю бабрынай.

Усё забылася спярша,
Але наноў пачуў я —
Гадаюць людзі:
А душа
Чыя ў гняздзе начуе?

Калі ж абудзіцца кара
На ліпе, лозах гнуткіх,
Ты прыгадаеш,
Што пара
Ўчуць таямніцу дудкаў.

## ПРА ЧАС

Растуць буслы ў сваім гняздзе.
Зарана б з вышыні не ўпасці.
О, як марудна час ідзе,
Калі падумаеш пра шчасце.

І вось з вачэй плывуць якраз
Чароды,
Сумныя калі вы.
О, як імчыць, сыходзіць час,
Калі ты ўдалы і шчаслівы.

У зорных вуліц на рагу,
У часе крэўным недарэчы
Я вас прыпомніць не магу,
Вы ж прызначаеце сустрэчу.

Хоць узляці,
Зара калі,
Хоць упадзі пад вечар ніцма.
Якое шчасце на зямлі
Пра час не думаць
Навучыцца.



## ГАДЫ

Па партфелях і кішэнях
Парассоўваем гады,
Ля душы каб не кішэлі,
Не імкнуліся туды.

Прыйдзе час —
Гады палічым,
Бо няма задач прасцей,
Па галовах,
Па абліччы
І па пальцах,
Як дзяцей.

## МАГІЯ КРУГА

Глянеш на крону лясную,
Белыя роспісы зім —
Магія круга
Пануе
Ціха,
Заўсёды,
Ва ўсім.

Соладка, свежа і сумна —
Не падыдзі, не крані —
Круглы застыў пацалунак
Месяцам у вышыні.

Першыя словы і блікі
На невядомай мяжы.
Потым па свеце вялікім
Час,
Нібы вальс, закружыў.

Росы засвецяцца ў лузе,
Іх да заходу стае.
Гэта па сонечным крузе
Коцяцца мары твае.

Кожнай вясною нанова
За лістападам услед
Добрыя погляды, словы
Кружаць цябе
І Сусвет.



## ДЗВЕ ВЕРЫ

Ішлі дзве веры часам доўгім,
Гады мінаючы, палі.
На бераг возера
Дарогі
Іх па Еўропе прывялі.

Паклонам стрэлі іх
У белым
І з непакрытай галавой,
Калі падходзіла нядзеля
І перад кожнаю сяўбой.

Так ім паверылі навесну,
Узвёўшы векавечны там
Адзін ля сосен паднябесных,
Другі — цераз дарогу храм.

Дзве веры служаць запаветна
Любові,
Праўдзе
І красе.
Звіняць званы:
То той,
То гэты.
А з верай слухаюць усе.

## СОН ПАД РАНАК

І трэба ж пад ранак такому прысніцца:
Ужо пасівелыя мы,
І ў арках,
Нібыта сталіца,
Забытая вёска людзьмі.

Навокал маўкліва і пуста.
Дзівіцца не будзе каму.
І даўкай залежыцца луста
За сумным сталом аднаму.

Забудзецца сон той і арка.
А сонца цякло праз гады
Па вёсцы рупліва і ярка
З далонькі ў далоньку тады.



* * *

Алаіза Пашкевіч…
Нядзіўна,
Што збіраемся бульбу капаць
І па візе замежнай — у Вільню,
Ды дакошваць сваю сенажаць.

Вас прыпомняць шчымліва і часта
Там, дзе век глухатой занямог,
Дзе вятры завываюць над часам,
Над радзімаю
З розных дарог.

На дзвярах — перамычка часова,
Покуль дуб па-над аркаю рос.
Да людзей старадворскае слова
Далучаецца сёння з нябёс.

А як дні карацейшымі стануць
У бясконцым імклівым жыцці,
Дзеля слова
І здымка на памяць
Будуць ехаць сюды і ісці.

Алаіза Пашкевіч…
Аб долі,
Я калі ні прыйду, —
Не маўчыш.
Ад дарогі не сыдзе ніколі
І з вачэй
Міласэрнасці крыж.

## ГОН КРЫЛА

Неба запаліла свечкі,
Воску ў бераг нацякло.
Не спыніць зялёна-вечны
Гон
Пад белае крыло.

Хмара выцалуе купал,
І гара дыхне ў Сусвет.
Два крылы снягоў няскупа
То насустрач нам,
То ўслед.

Пасяваем ледзьве рысы
Дзён успомніць.
За сялом
Узмахне зямля празрыстым,
То захмараным крылом.

Цені мрояць ля канавы
Светлай птушкай угары.
І акрыліць знічка нават
Нас прад тым,
Як дагарыць.



## ВЕЧАР

Хоць мне на сонцы не сядзіцца,
Дарога не заве,
Не туліць.
У пачужэлае сталіцы
Сябры на іншым боку вуліц.

Нібы бярозы, ліпы, клёны
І нават дуб стары, пахілы,
У міг даведнікі
Імёны
Надвое спраўна падзялілі.

Даўно ў ваколіцы вядома,
Што ў ветру злога лёс сабачы.
Сумелася навокал слова:
Сябе не чуе
І не бачыць.

Без навальніцы і без грому
І без пары спусціўся вечар.
Радкі пад вокладкай знаёмай
Не маюць права
На сустрэчу.

## ЛЯ ДАРОГІ

А ў канцы мяне спыталі — хто ты,
Як, з нябёсаў сцёршы вышыню,
Апускалі крылле самалёту.
Мне балела так упершыню.

Колькі ні заманьвалі прасторы,
Выбіраў ён Нёман з усяго.
Зорка не ўтрымалася за горы
Там,
Не дачакаўшыся яго.

Пакацілі,
Як забаўны мячык.
І крычаць хацеў у высі ты:
Ён недалятаў і недабачыў
Свежыя аблокі і жыты.

Пэўна, паміж пеклам сноў і раем
І пад густ нязведанаму дню
Месца ўсім народам выбіралі,
Каб свяціла сонейка яму.

Выбралі ля хуткае дарогі,
Дзе да шчасця ходзяць напрасткі.
Пэўна,
Каб успомніліся многім
Цётчыны крылатыя радкі.



## СУСТРЭЧЫ. СЛОВЫ

Нібы сёння сустрэча завершана.
Клічуць дарогі даўжэзныя.
Кожнае слова,
Што прыйдзе за вершамі, —
Гэта таксама паэзія.

Хіба на момант адзін уратуюць
Раніц імклівыя весніцы.
Нават пасланыя
Ў вечнасць святую
Словы
Па памяці
Вернуцца.

## НА КАЛЯДЫ

Зіма без снегу —
Зроду не зіма.
Нібы яздок разгневаны без стрэмя.
Калядны стол
Накрыць каму няма
Травой пахучай,
Залацістым сенам.

Не верыцца
Прад ночаю ані,
Што сёння мне
Пад зоркай новай
Аплатку падзяліць
І ў цішыні
Прамовіць
Бацькам казаныя словы.

За хмарай, за туманамі ўгары
Святло даўно вячыстае праліта:
Там зорка велікодная гарыць,
Каб тут ярчэй
Усходзіла малітва.

І ночы застаецца ўжо на дне.
Не спяць гады нястомныя адзіна.
Мы палім свечку,
Каб было відней
Душы здалёк вярнуцца
На радзіму.



## ПАД НОВЫ ГОД

Сам, трывогаю замглёны,
Не сасню прастораў я.
Мы — з-пад ёлачкі зялёнай,
А душою зорныя.

Нездарма ты мне ўсміхнешся,
Як шляхі спаткаюцца
Пад апошні вечар снежня
І пры свежай раніцы.

На марозе, пры ахвоце,
Узыду для згоды я.
Так зярнятка ў поле коціць
На сябе падобнае.

* * *

І сыходзяцца — не церпіцца, —
Даўняй восенню прапаўшы,
То пагляды на Мядзведзіцы,
То на сцежцы
Думкі нашы.

За аблокамі і клёнамі
Згледзець нас нялёгка гэтак.
Галкі дзюбамі калёнымі
Дастаюць з-пад снегу лета.



## ПРА НАС З ВАМІ

Цераз плот — у новы час,
Дзе ні слоў, ні вуліц.
Што наставіць вас
На нас
Часам азірнуцца?

Цераз мост
І напрасткі
Да нябёс, да сэрца,
Дзе тусуюцца гады
З вамі,
Каб сагрэцца.

Пазіраю скрушна ўслед —
Залацінкі самі.
Павучынкай інтэрнэт
Мудра падвісае.

А нарэшце, хто такі
І святы, і грэшны?
Як сваволіць не з рукі,
То складаем вершы.

## СВЕТЛЫЯ ЧАРНАВІКІ

Чарнавікі мае, тут толькі вы
Надзейныя, даверлівыя сведкі
Высокіх дзён душы і галавы,
Раскаянняў, прызнанняў рэдкіх.

Як набягала ціхая сляза,
Усмешку бачылі ад асалоды.
Што думаў,
А што так і не сказаў,
Закрэсліў разам з вамі назаўсёды.

Вы прагнеце і ўвагі, і вачэй,
Уваскрашаеце нанова словы.
Запалкай чыркнуць,
Нібы раз яшчэ
Паліць душу няшчадна і нанова.

Ужо плылі чыесьці ўдалячынь
Радкамі над зямлёю жоўтай гусі.
А я пры вас ні думаю аб чым,
Штораз з сабою даўнім расстаюся.

Прыходзіла адзіная сюды,
І маці пра вяртанне наказала.
Тут начаваць сабраліся гады
На берагах, дарогах і вакзалах.

Пры вас імгненні дрэмлюць і вякі
І лёс гаспадара маўчыць сам-насам.
Якія ж вы тады чарнавікі,
Калі заранкам свеціцеся часам?



## ДЗВЕРЫ

Колькі нам з дзвярыма працы
Штохвіліны і штодня.
Нібы дыхаць, не спыняцца —
Адчыняй, то зачыняй.

Пашанцуе, адчыніўшы
На любімы свой урок.
А праз ноч не ў тую нішу
Можна трапіць незнарок.

Дзверы храма і трамвая,
Званара і махляра.
Без дзвярэй адно бывае
Барсуковая нара.

А як сыдзе вечар мулка
Ці цікаўнасць,
А ці то
Каб у што было пастукаць
І падслухаць цераз што.

Каб схавацца ў добрым месцы,
Дзе не дзьме і не пячэ.
Каб было на што павесіць
Шыльду гучную яшчэ.

А сягоння, быццам веі,
Прад сівым і маладым
Дзверы — ціхія лакеі,
Бо наросхрыст прад усім.

Каб з надзеяй і без шанца,
Чым становімся мудрэй,
Праз гады ляцець-спяшацца
Да завешчаных дзвярэй.

Замаркоціцца няволя
За жалезнымі дзвярмі.
Эх, зблуджу я ў чыстым полі,
Дзе прастор,
Блакіт
І мы…



## МЯЖА

А па ваўкаватай мяжы,
Душою людской не сагрэтай,
Зноў на сваіх і чужых
Падзелены злосна паэты.

На ўсіх краявіды і дні,
Мяцеліцы ў зазімак крохкі.
І словы спрадвеку адны,
Ды розныя ў краі дарогі.

На ўсіх божай ласкі стае
І час непадкупны ў святцы.
Адны пры двары і стале,
Другіх з-за лясоў не чувацца.

Смакуюць сябе як адзін
Хто рыльцам, сцяблом, хто пялёсткам,
Насельнікі сонных вітрын,
Другія — прахожыя проста.

А час з красавіцкіх сядзіб,
Як цягнецца здаўна ў прыродзе,
Паглядам прывеціць адных,
Другіх у завею праводзіць.

Дарогі ж звядуць неўпапад,
Ледзь ранак зацепліцца росны.
Адных растрывожыць дукат,
Другіх
Заспакояць нябёсы.

## НА ХВАЛЯХ ВІЛІІ

*Міколу Мятліцкаму*

Не давялося яшчэ мне
Віліяй плыць напавер.
Здарыцца супраць цячэння,
Можа, сустрэча цяпер.

Колькі тут ладзіўся клёкат,
Перацвітала ўсяго.
Знесла як бы недалёка,
А не відно берагоў.

Вольнасць нібыта наўкола,
Быць бы яшчэ маладым.
Філасафічна Мікола
Берагам правіць сваім.

Мудрага дамачадца
Праз сінявокую гладзь
Прозвішчам не дакрычацца,
Імем яго не прызваць…



* * *

Як лішняй кніжка стане скора,
А без старонак школа — дзіўнай,
Ці ўспамінаюць, ці гавораць
Услых пра ціхую Радзіму?

Панікне ўсходу яркі грэбень,
І ноч заблудзіцца без зоркі,
Як верш высокі не патрэбен
Чуллівай музыцы нікольні.

А поле роўнае за гаем,
За полем — шлях, дзе зноў прайдуся.
І колькі Нёман ні збягае,
Не адрачэцца Беларусі.

Зімой і ранню веснавою
Адна гісторыя над краем —
Буслянкай слова нада мною
Аціхне то,
То ажывае.

## АДЛІГА

Пакружыла, памяло
І на сонцы стала.
Выпрабоўвае крыло
Вараннё памалу.

Адагрэў пярэсты кот
Пакачацца траўкі.
Цукраваты крыху ўсход
Для мяне не даўкі.

Па дарозе і сцяне
За дугою Струве
Сыдзе сонца ад мяне,
Да цябе скіруе.

Нам бы колькі цёплых слоў,
Супакою б колькі —
Угаворваю ізноў
І сябе,
І зоркі.



## МАЕ РЭКІ

А па дне,
Па сонечнай гравейцы,
З-пад сядзібы Мальдзісавай дзесь,
Лоша, край пазнаўшы астравецкі,
У абдымкі Віліі ўпадзе.

Дзеўчынём з маіх пагоркаў Котра
Пабяжыць пад залатую даль.
Вілія і Нёман
Годна, горда
На ўзбярэжжы мора справяць баль.

Ад высокіх гнёздаў,
Журавінаў
Як вам у далёкай старане?
Ручаінка помніцца павінна,
Што ў дарогу клікала мяне.

Там вытокі шчодрага дзяцінства
І гадоў нязмушаная плынь,
Каб цяклі аблокі нізка-нізка
На ўраджай усім
І на ўспамін.

## ЖЫЦЦЁ

Імкнуся да ісціны пешшу я,
Дзе шмат будзе добрых гасцей.
Надзеяцца станем на лепшае,
А бачыцца трэба часцей.

Як праўда маланкай наблізіцца,
То злосці тады не трымай:
Пакіну маленькую кніжыцу,
Памкнуся за свой небакрай.



## ГОД

Вясна ідзе,
Каб распусціцца.
Каб вырасці, прыходзіць лета.
Даецца восень пасці ніцма
Лістотай на пянёк сагрэты.

Зіма ж — таемнасць і загадка
Пад снегам, лёдам,
Ночай-сховам,
Каб пачалося ўсё спачатку,
Не паўтарыўшыся
Ні словам.

## ПРАРОЧА

З гэтага абавязкова
Дзесьці сягоння пад вечар
Ці залатая падкова
Выйдзе,
Ці наша сустрэча.

Будзе таму вінавата
Ў час, як зямля маладзее,
Некаляндарнае свята,
Свята душы
І надзеі.



## ПАЭТ І ЛІПА

Тут жыве адзінокі паэт,
А над ім —
На паўгорада ліпа.
Не адзін ён,
З ім добры санет,
Што далёкаю зоркай забыты.

Тут, пад ліпай,
Шчаслівы паэт.
Ён, складаючы песню аб вечным,
Каб увесь супакоіць Сусвет,
На руках закалыхвае вечар.

## РАБІНА

Рабіна пышным лёгкім кветам
Прыйшла па весняе зямлі.
І наваколле ўраз пра гэта
Зашапацела.
А калі
Яна за словы і за вочы
Святлом кранулася пляча,
Стаў на паўсвету мой пакойчык.
І белы танец загучаў.



## ВОСЕНЬ

Тут восень пэндзлем дастае
Па думках і па сэрцы.
У вочы рыжыя яе
Карціць мне наглядзецца.

Мая багатая радня
Па верасні хадзіла.
І плыў стамлёны човен дня
Па сцежках небасхілу.

## РЫЖЫК

З-за цудадзейнага паркана
З’явіўся сонечна знарок
Асенні Рыжык нечакана
Ці з цемры бліснуў светлячок.

Дзяцінства добры напамінак,
Як на світанні ты адзін
Хвастом зачэрпаў залацінак,
На вішню ўскочыўшы,
У сінь.

Тут у двары шчаслівых двое,
Пакуль не здарыцца зіма.
Гуляе сонейка з табою,
Да вушка лашчыцца імя.



## РЭЗАНАНС

Гучна сініца
Дрэва
Кроіць старой пілой.
Дапамагчы нейк трэба
Ў працы шчымлівай ёй.

Нібы вады напіцца
Просіць за шмат гадоў.
Ці за зіму сініца
Так кампенсуе доўг.

Але мой верш сцяною
Стаў, як нядобры знак:
Што ж пра вясну вясною
Непаэтычна так?

## КАЛІ

Паўсюль дарогамі пшаніца
Падпеfor разаная даўно.
Ізноў гадзінніку не спіцца
І мне,
І думкам заадно.

І так да часу, так патрэбна,
Каб за зарніцы ты ярчэй
Асцерагала наша неба
Ад дрэнных слоў
І ад вачэй.

Калі, калі пад ветрам сінім,
Як цені вымерзнуць з двара,
Надыдзе лепшая часіна
І наша выднее пара?



## МІГ НАСТУПНЫ

Спынiся, мой аловак,
Усё падрад пісаць
І дачакайся:
Новай
Хай здарыцца краса.

Што ўсё папера сцерпіць,
Няпраўда і хлусня.
Прышлі яе ў канверце
Ці воблакамі дня.

Няхай пярун абудзіць
Далёкі годны бой.
І зразумеюць людзі
З гадамі нас з табой.

Мы шчыравалі рупна,
І зразумеюць нас.
Бо кожны міг наступны
Пад сонцам —
Вечны шанс.

* * *

Люблю з каменнага палону,
Дзе тайны вусцішныя спяць,
У свет шырокі,
Свет зялёны
Сцяблінкі ўладна вызваляць.

Яны яшчэ высакародна
І сарамліва зацвітуць.
І будзе цешыцца прырода
Пры вас,
Пры мне,
Сягоння,
Тут.



## АДЗІНОТА

Добра такою парою
Быць на радзіме павінна:
Поўдзень вясны і настрою,
Працы ў гняздзе вераб'іным.

Мне незнаёмыя твары,
Іншым і сам не патрэбен.
Кожны завоблачна марыў,
Тужыўся плыць па-за небам.

Каб ашчасліўіць над вязам
Раніцу зноў маладую,
Можа, падумаем разам,
Побач давай паспрабуем.

Выйдзем дарогамі потым
Да векавых скрыжаванняў,
Дзе нам спатоліць ахвоту
Вечар знаёмы і тайны.

* * *

Пара настала бэзу.
І праз гушчэчу звонку,
Як у дзяцінстве, лезу
Па бэжавую гронку.

Прыйшла пара каштанаў,
І дзе ступіць нагою.
Усё — за так ці танна,
Што нельга нам з табою.

Мы вечнасць спасцігалі,
Аж хмарамі намоклі.
Па аднаму — хоць далі,
А на дваіх —
Ні кроплі.



## ВІШНЁВЫ ДЗЕНЬ

Хлапечыя задзірыстыя сны.
Ад іх і праз гады не дзецца
Нікуды.
Развярэджваюць яны
Душу і стомленае сэрца.

І ўжо вядуць праз таямнічы час
Дарогі здзіўленага госця.
Яшчэ палёт, яшчэ адзіны раз
Наш лёс залежыць ад кагосьці.

Вішнёвы дзень
Гукне праз даўні сад,
І слепяць, пахнучы, маністы.
Каб толькі не прачнуцца неўпапад,
Не выбіцца з лугоў квяцістых.

Крылатыя, задзірыстыя сны
На вышыні чароўнасці і стомы.
Паклічуць у далёкае яны.
Калі дамоў вярнуся —
Невядома.

## СУМ КАРЭКТАРА

У тым дарагая прыкмета,
Што ў спрытнай сям'і вераб'ёў
Чырыкне за хуткае лета
Яшчэ не аднойчы любоў.

Зашыецца невыпадкова
Пад стрэху пярынкай радок.
Не тое, што літара ў слове,
Прапушчаная незнарок.

А мама ўсе вокны памыла,
Шкадуючы рэчаньку ўслых.
Чым больш пазбягаю памылак,
Тым больш зашываецца іх.



## У ЛЕТА 2015 ГОДА

Ніхто не бачыў,
Як у спёку зніклі
З палёў стамлёных
Ціхія буслы.
Ніхто не чуў
Іх развітальных клікаў.
Сабраліся куды,
З чаго,
Калі?

Ні сенакосаў рупна не дзялілі,
Па камінах не раздавалі коп.
Зракліся раптам васількоў і лілій,
Як закіпаў па дрэвах
Дзікі сок.

І чалавек другому б не паверыў —
Так высмягла пад сонцам сенажаць:
Даўжэзнай дзюбай
Нават на вячэру
Збавення
Птушанятам не дастаць.

Прадвеснікі вясны і расставання,
Салодкіх сноў
І радасці часцей.
А без дажджоў засумавалі рана,
Сваіх не дачакаўшыся дзяцей.

Чаму ж, чаму
Буслам далёкім рады
І край мой,
І здарожаны ўспамін?
На іх маліўся
Векапомны прадзед,
Вяртаўся на прылёт іх
Блудны сын.



## А ЧЭРВЕНЬ...

А чэрвень зацвіў, закусціў.
І нам бы з табой не з пакункамі,
А ў лета вачыма ісці,
Дыханнем
І чыстымі думкамі.

Як месяц, маўчаць у цішы
Прыязна, разумна, загадкава.
І словамі не саграшыць,
І не спакусіцца выпадкамі.

Адчуць, як трывалая вось
Скрыпіць пад нагамі пакорліва.
Пабачыць,
Як спуджаны лось
Абсыпаны будзе сузор'ямі.

Каб сонца зіме пазычаць,
Пакінуць калі яе сілы ўсе.
І божай кароўцы спрыяць,
Што ў небе ад статку адбілася.

## СПЁКА

Наўкол — банальнае зусім,
І хочацца маўчаць пра гэта.
Ляціць планета ў сіні дым,
Мяне мінаючы
І лета.

Дыхнуць каб толькі з-пад вясны
І затрымацца ў даўнім ранні.
Без росаў перасохлі сны,
І песня —
Натамлёнай каняй.



## ДАРОГА

З-за небасхілу сноў капа
На мой асядзе локаць.
Трасе дарога, каб не спаў,
І дзякуй ёй за клопат.

Трасі, дарога, покуль сіл
Стае.
А ў часе страты
Радкі па ветры растрасі
Над запаветнай хатай.

## СОНЦА І ЦЕНІ

Па планеце днямі цэлымі
Паўз лясы і сенажаць
Варагуе сонца з ценямі,
Рады ім не можа даць.

А яны як ёсць патрэбныя
Чалавеку, колькі жыў.
Імі папараць не грэбуе,
Вуж цікаўны і смаўжы.

Сонца на планеце поўненька,
Цень не ведае мяжы.
Ім да зор гуляць у хованкі,
Ткаць палотны для душы.



## ПАЭТАВА ДРЭВА

Двор карэннямі парос
Дзеля кроны,
Што каронай.
А з заспаных цёплых гнёзд
Каравульныя вароны
Будзяць вераснёвы ўсход
Чалавека,
Што пад дрэвам
Піша летапіс штогод
Дзеля краю недарэмна.
Ліпа тая па вясне
Ўвекавечана нямала.
А прыходзіў я —
І мне
Сіл гаючых надавала.
Як расла і як цвіла,
Маладой рукой сагрэта.
А ў зацішку ля стала
Ліст паперы пахнуў летам.

Спахмурнеў чаму паэт,
Задумення, словаў поўны.
Мудры ёсць няйнакш сакрэт
У няўрымслівай вароны:

Ціхне,
Ліпа як цвіце,
Як мядова на падушцы,
Як шчыміць душа яшчэ,
Як радкі
На ноч кладуцца.



## ІСЦІНА

Усё не вечна.
Разам з намі
Сыходзіць кожнага свой свет,
Як дождж сляды змывае ўранні
Начныя нашы неўпрыкмет.

Усё навек.
Бо разам з намі
Прыходзіць раніца і ноч.
Другім не паўтарыць прад абразамі
Ні нашых душ,
Ні нашых воч.

## ЛІПЕНЬ

Распаўнелы ліпень.
Станецца —
Апранахі рве па швах.
І камбайны прачынаюцца
На жытнёвы смачны пах.

Падабаюцца жытнёвыя
Небу спелыя палі:
Бліскавіцаю паклёўвае,
Ветрам
Злізвае калі.

А расшчодрыцца купалінка
Пад гарэзлівую ноч —
Паўтару сябе па каліўку,
Толькі словам не суроч.

Чалавек наўкол паглядвае,
Спасцігае ён адзін,
Што зажынкі будуць ладныя
Пад світанне журавін.



## ВЕЧАР

З вачэй маіх
За вежы Гродна
Сядае сонца.
І адразу
Дзень лістападаўскі
Галодны
Кладзецца спаць
Пад сінім вязам.

## ПРЫСВЯЧЭННЕ

Выйду за натоўпам неўпрыкмет,
Выбіцца да сонейка няпроста.
Праглынуў вячысты твой праспект
Галасы, усмешкі і знаёмствы.

Дажыву да восеньскага дня,
Як вакол ні песень і ні гульняў.
Павіншую Голуба зрання,
Каб яму гняздзілася прытульна.

Падару яму,
Хай будзе ён
Рад на зэльвенскія краявіды,
Кніжку адзінокую
І звон
Келіха крыштальнага
З-пад Ліды.



* * *

Падлічыць хто нямыя шпалы,
Замерыць хто нябёс святло.
Так хутка яблыкі апалі,
Як лета вольнае прайшло.

Нібы загадкавыя гусі
Па незнаёмай старане,
Я ў вершах ціха паўтаруся,
І ўжо няма, няма мяне.

Але вяртаўся шматгалосы
Заўсёды вырай як адзін,
Як ты вяртаешся з-за вёсен,
Уваскрашаючы ўспамін.

## ПРЫВІТАННЕ СЯБРАМ

Пара падумаць нам якраз
Пра нас, забытых,
І сустрэцца.
Прыходзіць палявання час,
І не стрымаць ні ног, ні сэрца.

Абудзіць край ліхі эскорт
Суправаджэння зуха-зайца:
Сабакі, воіны
І чорт,
Што ўслед надумаўся пагнацца.

Карцінка дражніцца здаля
І ўжо не зменіцца, магчыма:
Усе са стрэльбамі
І я
Паўсюль — з вялікімі вачыма.



## ДАРОГАЮ

Па-на заснежаным плячы,
Дзе ў ценях водсветак раскосы,
Непараўнальныя ні з чым
Маўчаць з'інелыя бярозы.

Яшчэ, як верас пчолам пах,
Аселі рана нечакана
На пазалочаных лістах
І сум зямны,
І прадчуванні
Твае.
Але спадаюць тут
З бяроз пялёсткі снегу долу
Пад пажыццёвы перастук
Двух сэрцаў
Велічных
І кволых…

## ПОШУКІ

Пачараваўшы, спала лісце.
Далей за мару — не відно.
А можа, проста трэба выйсці
І вымыць шэрае акно.

Хіба сасне святла даволі,
Што праз гусцечу бачыць сінь.
І падарожніку, што ў поле
Пакрочыў сцежкаю адзін.

І адзінокі буслаў клёкат,
І сполахі ў вачах агню.
А можа, кнігу дзён далёкіх
Адкрыць, нібыта ўпершыню.

Ці ў свеце, можа, заблудзіцца,
Каб выйсці на радзіму,
Ці
Сустрэць далёкую крыніцу,
Згубіць, урэшце,
Каб знайсці.



## ЖАДАННЕ

У адну ваду не ступіш двойчы.
А другая, ні сланяўся б дзе,
Ні вадзілі б дзе па свеце вочы,
На чужацкі бераг прывядзе.

Хочацца ступіць
У брод за зоркай,
Вымыўшы нябёсы дабяла,
Будзе часам соладка ці горка —
Толькі б на радзіму прывяла.

## ФРЭСКІ НЯБЁСАЎ

Сёння пабачыў:
Ад росаў,
Ад сакавіцкай зямлі
Фрэскі світальных нябёсаў
Па-над табою ўзышлі.

Шчыра малітву,
Старанна,
Бы са святога ліста,
Вуснамі Нёмана
Край мой
Богу
На вушка шаптаў.

# Восень, ты і я

* * *

І Вы прайшлі…
Ранет здаўна
З-пад хмар,
Нямыты,
І з-пад лета
Чакаў раскошнага паўдня,
Каб спадабацца Вам за гэта.

А Вы маглі і не прайсці
Ці днём закрасавацца веснім.
Ці вінаваты хто ў жыцці,
Што мы сустрэліся,
Як песні.



* * *

Ад твайго імя
Лісты
Гаварылі,
А сама
Да мяне маўчала ты.
І не ведаў я імя.

Пацікавіўся ў лістоў,
Што шапталіся з зямлёй.
Мовы ж ведаць не гатоў
Ні лістоў
І ні тваёй.

Смутак жоўтага ліста
За табою падыму:
Як далоньку,
Каб чытаць,
Адагрэю на зіму.

* * *

Замерзну ў шчасці
І заінею.
Скажыце толькі ў ранак сонны,
Вы — тая самая,
З-пад сіняга
Заманлівага парасона?

Тады прапасці можна загадзя,
Тады прыходзьце ў дзень
І памяць.
Вы — тая самая,
Што заваддзю
І навальніцаю
Бываюць.



* * *

Вецер светлавалосы яшчэ
Не пазведаў паўночнай слаты,
Як пад погляды добрых вачэй
Пераходзіла вуліцу ты.

І стаяў зачарованы я,
Покуль ад скрыжавання дарог,
Як калісь,
Незнаёма зямля
Птушанём не ўзляцела з-пад ног.

Далягляду чароўны засоў
Адпусці, маё неба, яшчэ.
А па восені ўсплёск валасоў
І святлей,
І бліжэй,
І ярчэй.

Там, на той маладой старане,
Ветру блуднага сцішаны ўздых.
Непатрэбна па горадзе мне
Столькі вуліц і плошчаў пустых.

* * *

З-пад крон,
З-пад ружаў у акне,
З-пад сну,
Што па лугах пасецца,
Вы выкрадаеце мяне
Ў світальны час,
На тым жа месцы.

Папрачынаюцца дарма
Нябёсы, горад, сом вясёлы:
Далей няма мяне,
Няма
А ні ў рэдакцыі,
Ні ў полі.



* * *

За намі — восені сувой
І напамінку дарагога.
Мы так імкнуліся з табой
Не заўважаць адно другога.

Ты не адна,
Я не адзін,
І па жыцці даўно не госці.
Ідзём насустрач,
А з вышынь
Спрыяе нашым крокам хтосьці.

* * *

Каб трапіць у зімовы
Цудатворны дзень,
Выходзіць трэба з дому
Ціхай ноччу.
Сняжынак макрамэ
Іскрыстае надзень,
Ці ўскінуць, можа,
Плед зары
Захочаш.

Жыве пад ліхтарамі
Снегу варажба,
Цыганіць, неспакойная, прад намі.
…Што ты тут вуліцай прайшла,
Па галубах,
Па кронах дрэў
І па сабе
Пазнаю.



## ПРОСЬБА

Там усміхніцеся, дзе
Шлях мой
І рэчышча Струвэ.
Вам гэта страшна ідзе,
Вам тое вельмі пасуе.

Можаце потымісці,
Покуль вясна не настала.
Бог жа стварае ў жыцці
Дзеля сябе дасканаласць.

Рэкі ўсміхніце і дол,
Як вераснёўскімі станутць,
Каб засталася наўкол
Ціхая, добрая памяць.

Потым усмешка кране
Душы
І песняю стане.
І ці прыпомніць мяне,
Вуліцу,
Словы,
Світанні?

* * *

Дзесь вінавата-далікатна
Маўчаць сіноптыкі таму,
Што набліжаецца расплата
І за маўчанне,
І за сум.

У гэтым ранку
Выпадковым
Сябе пачую.
Мы — не мы…
У Вас зімовыя абновы,
І не пазнаць
Пры Вас зімы.



* * *

Ты адкажы цяпер сама,
Бо сакавік наступіць скора:
Куды падзелася зіма
Пасля твайго прыходу ў горад?

Жадаю ведаць удвая
Мацней ранейшага, магчыма:
Чаму бяссонніца мая
З тваімі добрымі вачыма?

Дарма рыхтуюць доўга так
Сабе насупраць бра і крэсла
То млявы з раніцы мастак,
То шумны ўвечары маэстра.

Ты, недаступная, ідзеш
Насустрач дню
І мне настрэчу.
Дыханнем адагрэю верш,
Дзе толькі словы,
Ты
І вечар.

* * *

Тут ад цябе вясна залежыць
І зімы некаторыя,
Зямлі маёй світанак свежы,
Палёту траекторыя.

Залежаць нават тое стала
Святымі днямі, горкімі,
Ці заставацца тут надалей,
Ці плыць услед за зоркамі.

Але найперш,
Як сонца стане,
Зазелянее вуліца,
Няхай яшчэ адзін світанак
За нас з табой
Заступіцца.



## АКНО

Лісток да лістка,
І акна
Твайго не відацца.
Так проста сыходзіць вясна
І свежасць палацаў.

І з вуснаў даўно не чутно
Пахучае казкі.
Маўчыць маладое акно
Вясенняю краскай.

А соладка жыць насамрэч,
Каб з Вамі спаткацца.
Ва ўсім —
Выпадковасць сустрэч,
Разгубленасць пальцаў.

* * *

Высокі, узвышаны храм
Чакае мяне.
І малітвай
Ты будзеш адзінаю там
Сустрэтай вось-вось
І забытай.

Прыходзь пакарміць галубоў
Да вежы,
Дзе птушак любілі
На ўсходзе далёкіх вякоў
І ў добрае шчучынскай былі.

Чыя і якая віна
Пазначыла нас і аблокі,
Калі ты заўсёды адна,
А поруч і я адзінокі?



* * *

На зіму зямля, нібы знарок,
Замарудзіць лёт у свет вялікі.
Ноч не адпускае ні на крок
Погляд з лістападаўскіх абдымкаў.

Ліхтары шануюць свой спакой,
Вёскаў, гарадоў
І цэлых нацый…
Дакараю цень нясмелы свой,
Што ля Вас
Не ў сілах
Затрымацца.

* * *

Час адзін,
Адзін прамень
На забытае зямлі.
Сустракаліся праз дзень,
Толькі разам не былі.

Дождж паліў з самотных жмень,
Выбіраючы,
На нас.
Сустракаліся праз дзень
Па дарозе ў светлы час.



* * *

Калі ніхто аклікнуць не ахвочы
І спакусіць,
Чым д’ябал саграшыў,
Прачнуцца
І падумаць сярод ночы —
Якая асалода для душы.

Дарогі спяць.
І нават пацалункі
Чакаюць слёз гаючых капяжа.
Устаць і абагрэць
Чужыя думкі,
Што кропелькамі роснымі дрыжаць.

Ісці, зямлі не чуючы, магчыма,
Не ведаючы воч,
Тваіх апроч.
І пры сустрэчы
Светлымі вачыма
Табе сказаць,
Што скончылася ноч.

## НА РОСТАНЯХ

Стаю на ростанях…
А трэба
Мне разгадаць, нарэшце, хто ты.
Стаю на ростанях…
А неба
Трымае жаўранак
Самотны.

Бы пчолаў,
Зорак атачэнне.
І ласяня бярэцца ў лося.
Сягоння снег…
Да пабачэння,
Мая раз’ясненая восень.



## СУСТРЭЧА

Суцешаны велічным звонам,
Прасветлены ласкай пагляд.
Прырода маўчала пакорна.
І я да ўсяго неўпапад.

Высокія ў золаце сцены
І поўныя вочы святла.
Ты з храма ішла, несумненна —
Здагадка маланкай была.

Здзіўлёныя белыя ружы.
Маўчы.
І прыгожа ідзі.
Мне нельга з табою парушыць
Ніводнае запаведзі.

Навошта рукой мае струны
Ты перабіраеш тады?
І верш, адзінокі і сумны,
Як месяц на небе
Гады.

Ідзі.
Мне патрэбна аб вечным
Падумаць
І аб маладым.
Ты з храма ішла
Ці настрэчу
Спадзевам і думкам маім?

* * *

Не думалася ў першы гром
І не гадалася на волі,
Пакуль пара
Вясеннім днём
Не засвяцілася наўкола.

І падзівілася вясна,
Як пад высокія аблокі
Табе і мне —
Насустрач нам
Ступалі словы нашы лёгка.



## БЕЗ ВАС

З Вамі не канчаецца дарога
Ні з прыходам ночы ні на міг,
Ні на скрыжаваннях дужа строгіх
У марозы
І сярод адліг.

Высланы ў Сусвет адначасова
Мы
Адной дарогаю ісці.
А таму не пазбаўляйце слова,
Дзеля Вас сустрэтага ў жыцці.

Горад, гарадок былінны,
Пэўна, паміж зорных трас
Не падаўся б цёплым напамінам
Пра жыццё высокае
Без Вас.

## МАЯ ДЖАКОНДА

І пасміхалася прырода,
І разгубілася зямля:
Я непапраўны Квазімода
Ці ты Джаконда не мая.

Хоць у дарозе будзе горка,
Хай не канчаецца яна.
Ты праплываеш, нібы зорка,
Праходзіш міма, як вясна.

І па якой любіць навуцы,
Чакаць і верыць у жыцці,
Каб ні на міг не размінуцца,
Каб не згубіць
І не прайсці.

А не смяротна і не шкодна
Падчас цвіцення ці слаты
Пабачыць раз
Сваю Джаконду,
Не сумняваючыся ў тым.

Ідзі, ідзі
За вечар сіні,
Туды,
Дзе прыгажосць жыве.
Я пры сабе
Цябе пакінуў.
Яшчэ ты прыйдзеш
Па сябе.



## ЗАНЯТАК

Хтосьці меўся скарыць далячынь,
Абдымаючы крута.
Хтосьці тут, пад сабой, не ўлічыў
Асаблівасцей грунту.

Назбіраю Мядзведзіцы коўш
Яблык.
Кожнаму годзе,
Каб цябе не будзілі штоноч
Аб парэнчы стагоддзяў.

## ВАМ УСЛЕД

І мілей з гадамі стане
Свет далёкі, блізкі свет.
Вам услед — мае світанні,
Захады мае — услед.

З летам выліняе танна
Мой сюжэт,
Як час міне,
І яшчэ прывабней стане
Ён без Вас
І без мяне.

Хваляваецца пушча будзе
Тут, у белай старане,
Як падзеліць грозны студзень
Свет на долькі —
Вам і мне.



* * *

Калі шляхі спаткаюцца
Прытульна не зусім,
Вітаючыся з раніцай,
Кажу па слову ўсім.

А раптам зноў вясло маё
Закружыць каламуць,
З пагодлівымі словамі
Не суджана тануць.

Надыдзе наша таінства
Пад спёку,
Маразы,
Нарэшце, павітаемся
Хоць раз
За ўсе разы.

* * *

Падумалі ж калісьці людзі,
Што тое перакрыжаванне
Еўропе цэнтрам добрым будзе
І горадам нарэшце стане.

Карчму ўзвялі
І побач — вежу.
І склалі музыку прароча,
Якая з зім сурова-снежных
Нас прывяла сюды аднойчы.

На Вільню трэба ці Гародню
Або спаткацца ля фантана —
Пра нас клапоціцца лагодна
Трохвокі цмок на скрыжаванні.

Мы ж будзем слухаць часам раннім,
Як зноўку велічна і стала
На нашым мілым скрыжаванні
Мелодыя дарог
Гучала.



* * *

Пайшоўшы,
Сонца не пакінеш,
Пазбавіш закадычнай волі.
А потым будзем мы такімі,
Наколькі вуліца дазволіць.

Праходзім ля святочнай ёлкі
Пад абажуры слоў застольных.
І робім выгляд,
Што ніколькі
Нас не цікавіць наваколле.

Усё адпусцім і забудзем,
Каб над абрывам
Зноў вяртацца
Туды, дзе помнім мы
І людзі
Пачатак восені
І танца.

* * *

Ні думкай шэрай не крану
Затокі лебядзінай.
Шануе горад цішыню
Яшчэ адну гадзіну.

Не засвячу сваіх акон.
І ведаю як быццам —
Ты бачыш сон,
Павінен ён
Праз паўгадзіны збыцца.

Там самалёцік намасціў
Свой светлы шлях былінны.
Ідзе асенняй цішыні
Апошняя хвіліна.



## НАШЫ ГАРАДЫ

У Вас свой горад за ракой.
А мой маленькі ціхі горад
Праз мост
Пусціцца ўслед за мной,
Відаць, асмеліцца не скора.

Затое сонца ўсходзіць тут
І ажываюць самалёты.
На дрэвах воблакі растуць,
Каб плыць
У Вашы вокны потым.

У Вас палац
І строгі князь
Адгарадзіўся ліхтарамі.
Не заўважае болей нас
Ні ўвечар, ні світанкам раннім.

Рака, рака, ты нездарма
Жывеш вякамі паміж намі.
Падкажа мудрая Тур'я
Віры
І брод выратавальны.

* * *

Прайду забытымі дварамі,
Нібыта зорнай каляінай.
Хто вінаваты перад Вамі,
Калі не я,
Не вечар сіні?

Рука ляжала цішынёю,
Да слоў усходзіла світальна.
Хто вінаваты прада мною,
Калі не Вы,
Не ваша тайна?



* * *

Пад спеў і маўчанне
Старонкі маёй
Чытаю па небе не першы,
Як кружаць і тужаць
Над ціхай зямлёй
Асеннія добрыя вершы.

Хацеў запісаць тыя словы я Вам,
Яны ж нічые па-над краем.
Вы тыя імгненні маглі б станцаваць,
Аднак за аблокі пара ім.

Сябе ад паперы халоднай адняў,
У свет павандрую вялікі,
Дзе кружаць і тужаць
На захадзе дня
Паглядаў нябесныя блікі.

## ЛЕСВІЦА

*Я. М.*

Гучала мова днямі тымі
Наўкол,
Бы шлягер залаты.
Адкуль тутэйшыя матывы
Між лістападаўскай слаты.

Хвіліна казачна паспела
Вас запыніць каля мяне.
Лісты паперы
Снегам белым
Захваляваліся ў акне.

Фантан мядзведзем бок адлежаў,
Пакуль спяшаўся я сюды.
І дапазна лічыла вежа
Зязюляй мілыя гады.

Чародаў зноў па небе поўна.
Мне ўслед пра штосьці гавары.
Тут беларускіх слоў з-пад Нёмна
Чакаюць гоні і бары.

Маўчала лесвіца крутая,
Пакуль у сэрцы словы нёс,
Пакуль вяртала
І вяртае
То на зямлю,
То да нябёс.



## ПАЎТОРЫЦЦА

Што я настолькі старажытны,
Што незваротна ўсё —
Шкада.
І аднаўленне неба, жыта —
Выратаванне
І… бяда.

Але здзівіць гатовы зоры
На перагледзінах сваіх,
Каб у паглядзе бездакорным
Зноў паўтарыцца
Хоць на міг.

* * *

Яшчэ ты быццам не спаткана,
Няказаныя словы…
Яшчэ развітвацца зарана,
Азмрочваць дзень зімовы.

Падумаць страшна нам з табою,
Як стане зорка ў маі,
Што будзем мы рабіць з вясною,
Якая завітае?

Паспее ўсё,
У памяць кане.
Світанак прыйдзе новы.
Яшчэ ты быццам не спаткана…
Няказаныя словы…



* * *

Што яшчэ ёсць напярэдадні лепшае
Мараў дзявочых і чар?
Зараз запаліцца
Сонейка першае —
Ціхі і млявы ліхтар.

Сонейка потым другое засвеціцца,
Збавіўшы нас нематы.
На развітанне цнатлівага месяца
Ўзыдзеш прад светам і ты.

## МІЛЫЯ АНАМАЛІІ

Ні з зімой, ні з табой, ні са мной
Не здаралася гэтулькі дзіў.
А ў прыродзе душэўны спакой:
Не прыходзь,
Не глядзі,
Не будзі.

З ёй падумаць прыемна цяпер
Пра вавёрку
І зорку ў дупле.
І паслухаць, як шэпча аер
Пры нязвыклым паўднёвым цяпле.

І мае неспакойныя сны
Пад спакусаю чорных вачэй
Развярэдзяць даліну яны
І нябёсы прабудзяць яшчэ.

Як жа трэба — не знае сама,
Зазірнуўшы на момант сюды,
Каб пагладзіла
Лесу
Зіма
Непаголены твар малады.



## ВАШЫ СНЯЖЫНКІ

Затулілася журба
Ў ціхім голлі.
Першы снег упадабаў
Стрэхі, поле.

Як жа вызналі з вышынь
Чынам нейкім
Дзве сняжынкі шлях адзін
Вам на вейкі?

Спадабаліся яны
Гаспадыні.
Я б таксама да вясны
Іх пакінуў.

## ПРЫСВЯЧЭННЕ

*Т. В.*

І вось снягі сумеліся ўгары
І вецер свежы далячынь разгушкаў.
Вясны дзянніца
Па календары
Надходзіла, кацілася ў пялюшках.

Нанова двор маўчаў, нібыта сніў
Высокую і дайную хвіліну.
Счакала неба толькі да вясны,
Два тыдні ад Святога Валянціна.

Яшчэ на ўзмах спрабуючы крыло,
Ступала слова сцежкай Прынямоння.
А ружаў там на плошчу ўсю было,
І плыў не бляклы месячык,
А — поўня.

Каб пасядзець хвіліну за сталом,
Вяртаемся і каемся няспешна.
Так уваходзяць толькі ў родны дом —
Без стуку
І з Таццянінай усмешкай.



## ТВОЙ СМЕХ

І будуць прылятаць сініцы,
Вісець на нітачцы прысценна.
А ты мне будзеш светла сніцца
Жыццё астатняе, напэўна.

Забыў у мітусні сталіцы,
Што вечар ёсць,
Што ёсць світанне.
І ручайком твой смех бруіцца
З-пад даўніх дзён не перастане.

## ВЯСНОВЫ ПАРЫЎ

Ратавальны шлях, прынамсі, зведаў
З зімняй меланхоліі і сну:
Заскакалі коцікі на вербах,
І пралескі выткалі вясну.

Па-за горадам дзівосаў многа —
Хоць і нетаропка ў час такі
Скача жабяня цераз дарогу
Зноў самаахвярна напрасткі.

Раннімі атруціцца смаржкамі
Прынародна маладзец гатоў,
Каб на міг успыхнула між намі
Позняе каханне
Ці любоў.



* * *

Каб дабудзіцца даўніх вокан,
Каб час і мілаваў, і верыў,
Патрэбна быць планеты звонку,
На месцы зваблівай Венеры.

Па зорах ты навараджыла,
Па верасовых пруткіх сцежках.
Цяпер хаця б адна сцяжына
З вясною ўперамешку.

## ШАЛІ ВЕСНАВЫЯ

Прыйшла неспадзяваным словам,
Раней не стрэчаным нідзе.
І што рабіць з вясною новай,
У ёй куды сябе падзець?

Напагатове пень ліловы,
Грак пад сусвет гняздо звіе.
Я ж, як заўсёды, не гатовы
Сустрэць зару,
Спаткаць цябе.

І, як бывала, разумею,
Што непаўторна тут усё:
Дарога, радасць і надзея,
Тым больш — пужлівае жыццё.

Па-над вясной — аблокаў шалі
Для дзён тваіх,
Начэй маіх,
Каб мы занадта не спяшалі
І не спазніліся на міг.



## А БЕЗ ЦЯБЕ

У дзень прыветлівы, прыгожы
Сказаць табе сягоння мушу,
Што па вясеннім бездарожжы
Пайду да сонца
І да птушак.

Калі змаўчу, не адгукнуся,
Даверся велічнай нагодзе —
Табе махнуць крыламі гусі,
І промні вусны залагодзяць.

Затуліць маладая Котра
Тваю надзею.
І аб нечым
Мядовым
І палынна-горкім
Складзе санет
Спакойны вечар.

Да светлых птушак думаў выйсці
Праз ліставей, цяплынь і замець…
А без цябе,
Як і калісьці,
Яны мяне не заўважаюць.

## БЛАКІТ

Дажджы гудзяць
Чмялём бяссонным,
З’яднаўшы вуліцы і час.
І елка ў дзесяць парасонаў
Аберагаць гатова нас.

Затым блакіт ад вершаліны
Сцякаў на дол вадой густой.
І ў час гарэзлівай хвіліны
Трапляў блакіт
У погляд твой.



## КРАСАВІК

Як да сонца,
Да блакітнай песні
За гады мінулыя прывык.
На якіх арэлях паднябесных
Сёлетні разгойдаць красавік?

Вецер цеста хмараў перамесіць,
Падзяліўшы на палеткі нам.
Хоць згадзіся ў наймітысь на месяц,
Каб з гняздом управіцца буслам.

Хочацца пакаяцца прад рунню,
Высвеціць два словы нездарма.
Сыдзе снег.
І ты ізноў скіруеш
Да маёй ваколіцы сама.

## ТВОЙ ГОЛАС

Раскошная рабінавая раніца,
Нібы на здымку,
Помніцца такой:
У лужах вераб'і паўсюль купаюцца,
У думках —
Дабрыня і супакой.

Гады праз голаў
Кідаюць вудзілішча.
А я хачу з надзеяй уваччу
З прыбою хваль
Твой срэбны голас вылушчыць,
Каб побач з ім
Сябе наноў пачуць.

У дзень сыходзіць велічна абранніца.
Нібы на здымку,
Бачыцца такой.
Мне з вераб'ямі хочацца параіцца,
Як ладзіць шчасце
Можна талакой.



* * *

Я гэту музыку люблю,
Ёй даражу без меры,
Калі бясконцую зямлю
Сабе і вам намерваў.

Ідзём са мной пад зарапад,
Праз дождж, любоў і нервы.
Там заблудзіцца з вамі рад,
Каб далеч перамерваць.

Здаецца, высяў не стае
Для крылаў,
Каб уволю.
І чым даўжэй палёт яе,
Тым неба ў птушкі болей.

Ляцяць за небакрай яны
Праз межы, катаклізмы,
А чалавек — за імі ўслед
З надзеяй непахіснай.

І як паром, мы падбяром
На борт і гром, і хвалі.
Хацелі стаць гаспадаром,
Ды часу не ўтрымалі.

А падарункам будзе дню,
Калі з табой у нечым
Па кроку зробім аднаму
Прыязнасці настрэчу.



* * *

Ты шукала прычыну вачыма
Ў пойме сонечнага канфеці,
Каб яшчэ раз,
Апошні, магчыма,
У палон цішыні не прайсці.
Памінуўшы аблокаў кілімы,
Як няпроста вярнуцца назад.
Ведаць, што ад надзеі шчаслівы,
І чакаць,
І маўчаць неўпапад.

## ЭЦЮД

Хмарка кладзецца, як здань, на плячо
І не знайсці паратунку.
Белага бэзу
Гарыць светлячок,
Дзень аздабляе і думку.

Ступіш бліжэй —
І запахне ямчэй
Краем, дзе мроі вядуцца,
Палкасцю рук,
Сінявою вачэй,
Ранішнім сном на падушцы.

А светлячок разгараецца зноў,
І расступаюцца далі.
Россыпамі залатых валасоў
Хмарка з-пад сонца спадае.



## ХУТКІ МОСТ

Хачу прыпомніць Вас яшчэ
З-пад вераснёўскіх фарбаў тых,
Каб без чужых зусім вачэй,
Без словаў,
Думкаў каб чужых.

Пад хуткі мост спадае час,
Палац мінуўшы і дамы.
І не заўважаць болей нас,
Бо цішыні хацелі мы.

Туман рассеецца і дым.
А ўсё за нас, не маладых,
У ходзе стрыманым сваім
Ізноў прыдумаюць гады.

Падставіць далягляд плячук
Пад неўгамонны мой пагляд.
Яшчэ пабачыць Вас хачу,
Каб восень павярнуць назад.

* * *

Не веру я ў імгненнае каханне,
Не веру ў бліскавічную любоў.
Як след ад санкаў па вясне растане,
Хоць безліч пракладзі такіх слядоў.
А там напаўзабытая крыніца,
Без нас ёй неспакоіцца адной.
Там Млечны Шлях.
Як радасна таміцца
Мне ўслед табе
Каменнай чысцінёй.



* * *

Бачыў зарапад імклівы,
Буслаў
І замглёны далягляд.
Што ж, як апярэдзілі шчасліва
Нас стагоддзе цэлае назад.

Што яшчэ падасца,
Што захочам,
Будзем зачараваныя кім…
Радасць,
Што сягоння твае вочы
Вычытаў,
Як даўнія радкі.

## А НАМ БЫ…

Так будзе.
Калі-нікалі
Пад сцюжу ці свежай вясною
Прачнёмся з табой на зямлі
Дакладна хвілінай адною.

Падумаем мы пра адно
Вясёлае адначасова.
Папераждываем кіно
І вымавім вечнае слова.

Затым сумаваць дапазна
І хмаркаю плыць залатою…
А нам бы
Аднойчы пазнаць
Пра ўсё
Ў адначассе
Пра тое.



## ДЗВЕ ДУШЫ

Вас выпадак не зацікавіў,
Як пазалеташні ўспамін.
Не пакаштуем з вамі кавы,
На зоркі ў ноч не паглядзім.

І адзінокая, магчыма,
Без акаляючых прычын
Ідзе па горадзе жанчына,
Пакункі суму несучы.

А тое ці абавязкова,
Каб летам снег зацерушыў,
Каб без праніклівага слова
На свет знайшліся
Дзве душы?

## АДЗІНОКАЯ КАЗКА

Па леце, па небе сакрэціць,
Гуляе, як першы мой верш,
Адзіная казка на свеце,
Дзе ты аж дагэтуль жывеш.

Дарогу прыпомню яшчэ я,
Па зорах прыеду яшчэ.
Там, пераступаючы цені,
Світанне сустрэну вачэй.

Жыве прыдарожнаю краскай,
Што ўсходзіць заўсёды сама,
Такая адзіная казка,
З якое вяртання няма.

# У святле палаца

## НА КНЯЖЫ СОН

Сонцу свайму
І маліўся, і верыў,
Покуль дарогі дадому вялі,
Друцкі-Любецкі Францішак Ксаверый,
Князь неўгамонны
Буслінай зямлі.

І па спякоце, і ў люты траскучы,
Непрадказальнай памежнай слатой
Едзе з Масквы на Варшаву
Праз Шчучын
Князь-пасланец
Ад Тэрэзы Святой.

Тут пад паглядам таполяў і вязаў
Выраяў дзвесце назад
Ды вясной
Бегла падлеткам Марыя да князя,
Цар азадачаны хуткай вайной.

Думкаў цяжар
Пра Вялікае Княства
Вытрымаць нельга рысорам ужо.
Як пагадзіцца, што Нёманам ясным
Шчасце сплывае
Па волі чужой?

Подых вясенняй Нявы.
А назаўтра
Князь праз знаёмы блакітны прастор



Пад паланэз аднадумцы і сябра
Ціха вяртаўся ў заплаканы двор.

Змоўчалі ў цені магутныя сцены,
Гмах узляцець за душою гатоў.
Слухае князь над сабою касцельны
Звон
І палёт неўгамонных гадоў.

## ДЗЕНЬ

Сцяліўся прымаразак ранні
На саматканкі-дываны,
Як заадно маўчалі храмы,
Як па чарзе будзілі сны.

Зялёны поўдзень аксамітны.
На свет здзіўлёная сляза.
Чамусьці помніцца малітва,
Што прад дарогай князь казаў.

Па небе светленькія жылкі
Цяклі між зорамі наўпрост.
То людзі птушкамі кружылі,
Не выракаючыся гнёзд.

Дзень беларускага пісьменства
Пакіне слова на лісце
Нябёсаў шчучынскіх,
Каб месца
Пазалаціла жыцце.



## СЛОВА НА СВЯТА

Хіба зоркаў мала,
Прыгажунь і німфаў:
Публіка жадала
Бадака і Шніпа,

Голуба паслухаць
З векавой Гародні
Ад скразной задухі
Музыкі бязроднай.

Мэтры не крыўдуюць,
Покульназіраюць.
Думку маладую
Выгладзяць на памяць.

Не спрачацца з сэрцам,
Стаць надзеі вартым.
Слова адгукнецца
Шчучынскае
Заўтра.

## У ШЧУЧЫНЕ

У Шчучыне не пераznацца
З усёй беларускай ваколіцай.
Прайшло столькі часу з юнацтва,
Што трэба нанова знаёміцца.

У Шчучыне невыпадкова
Прыязнасцю вуліцы поўняцца:
Высокага, вечнага слова
Праходзіць
Святое паломніцтва.



## І ТРЭБА

І трэба з ночы цьмяна-ніцай,
Што бляскам дражніцца ўгары,
Расплюшчыць вочы,
Вам прысніцца,
Зрабіць два крокі да зары,
Успомніць маладое тое,
З чаго і мерзнуў і згараў,
Ступіць, нарэшце, на святое —
На пуцявіны буквара.

* * *

Як не выпала спаткацца
Ў тым стагоддзі,
То крадком
Пажыву каля палаца
Падарожным дзіваком.

Тут чыесьці сны ступалі,
Віравала маладосць.
І на маладыя хвалі
Пазіраў шчаслівы хтось.

Тут, пад кронамі старымі,
Ад паглядаў убаку
Стрэну праўнучак Марыі*
Або іхнюю дачку.

Снасць закіну ў хвалю тую,
Каб злавіць у схове тым
Як не рыбку залатую,
То хоць з колцам залатым**.

* Марыя — жонка князя.
** Па легендзе ўся рыба князя Друцкага-Любецкага была пазначана залатымі колцамі.



* * *

Выдуманае, пэўна, на прывале
Пры дарозе пыльнай правіла —
Самі вежы з долам руйнавалі,
Самі ж да нябёс і ставілі.

## НАД ЗАЛЕССЕМ

Слухаю мінулае адзін
І з людзьмі,
Што ў памяць ад’язджалі.
Гукі выраслі да вышынь,
Выраем спяшаліся за далі.

Над Залессем — даўніны краса
І бяздонне па-над краем вісне.
Каб такое хтосьці апісаў,
Сам Гасподзь
Стараўся адумысне.



## ВЕРНЫ СЯБАР

З туманоў сваяцтвам трошку,
Колькі помню, колькі жыў,
Верабейка ростам з крошку,
Хатка дзе твая, скажы?

Ты ж з вачэй, як кропля, кануў —
Гаспадар сабе ты сам.
Прыляцеў сюды з туману
І схаваўся пад туман.

Ды да крошкі хлеба шэрай
Перад тым, як ляжа стынь,
Зноў вярнуўся павячэраць,
Каб не быў я скрозь
Адзін…

## ЧОРНЫ КОТ

Па светла-жоўтай агароджы
Гуляе кот туды-сюды.
Ён масцю чорнаю прыгожы,
Магічным ходам маладым.

І сам не ведае, напэўна,
Пусціўшы ў справу кіпцюркі,
Які ў народзе ён напеўны,
Увекавечаны які!



## НА РАДАСЦЬ

Чародка птушыная рада
І за сябе, і за нас:
Зімовай парою каляднай
Паспела рабіна якраз.

Рабіна світае іначай,
Забытая намі даўно.
Хоць перакосіць,
А смачна
З чубаткамі коўтаць віно.

## ПАДАРУНАК

Палёгкі ад прыроды не чакай.
То вуглем піша,
То адорыць белым.
Я — сын яе,
А ты — яе дачка,
Ды роднасці сваёй не ўразумеем.

Наступны час
Цярпліва патрывай:
Палёт наш
І вячысты, і імгненны.
А мы ўзаемна пакладзем давай
Пад ёлачку
Па добраму па гену.



## ШЧЫРА

Вольны ад камп'ютарнай прастуды,
Цалкам антывірусны знутры,
Зранку незалежны духам буду
І аж да вячэрняе пары.

Завяршэння працы не пазведаў.
Абмінуўшы гарантыйны боль,
Прывітаю ветлага суседа
І суседку пекную —
Тым больш.

І пра тое, можа, недарэчы,
А каб ранак рукі распасцёр,
Скіну эсэмэску па-старэчы
На свяжуткі
Снежны манітор.

## ВЯСЁЛЫЯ ВЕРШЫ

І будуць катацца з разбегу
Аж з горкі ліста
І — на людзі
Зімовыя вершы са снегу
Бялюткія, нібыта студзень.

А потым у прыцемках першых
І незразумела,
І проста
Звіняць красавіцкія вершы
З блакіту, вачэй і пялёсткаў.

Як слова да слова прыліпне,
Да вуснаў, нібыта паземкі,
Вачыма адкажаце вы мне,
Бо я — немаўля,
Я — маленькі.

Нарэшце ў тумане і муле
Работы мы болей не просім,
І хтосьці ізноў зарыфмуе
Іх восем
На восень
Пад просінь.

Зноў будуць катацца з разбегу
Аж з горкі ліста да запруды
Зімовыя вершы са снегу
І чуйныя,
Нібыта люты.



## НАПЯРЭДАДНІ

Снягі пакуль што цьмяна свецяць
Не мне ў дарозе аднаму,
Але спрабуюць полем дзеці
На санках пракаціць зіму.

Ляцяць снягі радзімы міма
І нас
Не першыя разы.
Куп'ём травы,
Яшчэ ўспамінам
Трымае восень
Палазы.

## ЛЯ ПАЛАЦА

Самалёты вышыню любую
І салюты вызналі даўно.
Друцкія-Любецкія спрабуюць
Выглянуць даверліва ў акно.

Там з-пад аркі
Ў сад ступае памяць,
Мы сюды спазніліся ізноў.
Друцкія-Любецкія чакаюць
Узыходу сонца і званоў.

Хоць асіліць вечнасць будзе дзе ім,
Свеціцца душа пад час такі:
Друцкія-Любецкія ў надзеі
Лебедзяў паласаваць з рукі.



* * *

На ўзбочыне позняй парой
З гадамі як ёсць, як вядзецца,
Згубіла варона пяро
І меціць прыладзіць на месца.
Не бачыў таго,
Колькі жыў, —
То кіпцем па пёрку, то дзюбай.
Хоць ёй падкажы, пamaжы,
Каб час,
Каб умеў,
Каб не людзі.

## ПАПЯРЭЧНАЯ

Ціхая, мірная вуліца
З назвай для ўсіх — Папярэчная.
Хатак дзясяткам затуліцца,
Яблынькамі і парэчкамі.

З добрай ці дрэннай прыкметаю
Ўпоперак,
Як і многія,
Іншым
Гравейкай прыветлівай
Не пераходзіў дарогі я.

Так вось між кронамі, сценамі
Пашпацыруем спакойненька
І Папярэчнай зацененай
Проста выходзім да сонейка.



## СЯБРОЎСТВА

Пад ноч у кроне сумна-чорнай
Паўзадуменная, адна
Сядае чорная варона
Насупраць цёмнага акна.

Чаму адна, чаму маўкліва
Маіх жадае гэтак воч?
Ці захапляліся калі вы
Задумнай птушкаю на ноч?

Няхай смяецца свет чароўны,
Зіготкі, хмуры і рабы.
Ніхто яшчэ гнязда вароне
Ў маўклівых кронах не рабіў.

Усё пачнецца ад крыніцы
І не канчаецца ў трысці.
На роздум першы сакавіцкі
Яна крылом зазіхаціць.

## ПТУШКІ

Не вучыўся ў птушанят дарма,
Глушачы піярам цішу, сум.
А прад імі ям нібы няма,
Неўміручы ёсць, аднак, каршун.

Як за імі велічна вяло
Ў далячынь,
Ты зведала сама.
Хоць над імі — мудрае святло,
Ёсць для іх даўжэзная зіма.

Коцяцца грамы,
Маўчаць званы.
Прарастаюць у траве гады.
Межаў век не ведаюць яны,
А радзімай
Цешацца
Заўжды.



## ВЫПУСКНЫ

Па горадзе ідуць выпускнікі
Да сваёй першай раніцы світальнай.
Зайздросцячы,
Бакалы ў час такі
Трымаюць урачыстыя каштаны.

Ім уступіць дарогу кожны рад,
Бы азірнуцца ўслед гадам бывалым.
Напэўна, ім галантны зарапад
Зямля на вечар сіні заказала.

І дзікі космас — да маёй вясны.
Не пераседзець мне яго за чаем.
Святкуе горад сёння выпускны,
А я ўсё юбілеі адзначаю.

## У СВЯТА

Там дзікія качкі
Пад вейкі
Нябёс
Узляталі, калі
Над шчучынскім возерам кветкі
На памяць
У гром зацвілі.

Вярталіся птушкі, каб болей
Пабачыць людзей і святло.
Кружылі снягі наваколле,
І толькі цябе не было.

Паспей
Да завеі каляднай
Праз мосцік,
Дзе крышку правей
З-пад бела-ружовага саду
Палац нам насустрач плыве.



## ПРАГА ДАРОГ

Заплюшчыўшы вочы,
Пастойце.
Кране лебядзіным крылом
Мой горад вясну пры падлёце,
Адорыць нябесным святлом.

А потым пабачыш не тое,
Пайшоўшы паўз месяц і зор, —
На Вільню хадой маладою
Праз Цётчын прыцішаны Двор.

І ад Мураванкі на Нёман
Заступнікам краю наўзмах,
Чырвонага, белага повен,
Крыляе стагоддзямі птах.

І крыллем — да берага бераг,
Каб кожны акропіцца мог
Крынічнай вадою
І верай
Прад прагай далёкіх дарог.

Праз укамянелы пагорак,
Асветленую сенажаць
Вярнулася вежа не даць
У часе зблудзіць і прасторах.

## ДЗВЕ САСНЫ

Ты пакручастай, дарога,
Выпала з самай вясны.
Край паланілі надоўга
Дзве маладыя сасны,
Мне сімпатычныя лёсам:
Гоман іх блізкі быў там,
Постаццю самі ў нябёсы,
Повен жаноцкасці стан.

Што ж у прасторы адталай
З вамі падоўгу маўчу,
Што адзінотай запалі
Вы мне надоўга ў душу?

Зноў дачакацца нам трэба
Словаў прызнання амаль,
Дзе кучаравыя дрэвы
Справяць на беразе баль.



## СКАЖЫ

Гасцямі стрэла сонца нас,
Вясёлае, чароўнае.
Што ў гэты час,
Цяпер якраз,
Што на Зямлі —
Галоўнае.

Так дзве дарогі сярод дня
Вялі сюды для нечага.
Святая — з раніцы адна,
Другая — аж з-пад вечара.

Пры Зеўсе продак быў гатоў
Наконт мяне расчуліцца.
А ты магла праз сто гадоў
Прайсціся гэтай вуліцай.

Каб побач быць,
Я б жыў скарэй.
Няхай сабе і грэшная
Не высыхала б акварэль
Па-над тваёй усмешкаю.

Ляцелі б іншыя лісты
Да ног чужой абранніцы.
Скажы, ці сумавала б ты
Без шчучынскае раніцы?

## ЧМЕЛЬ

Сур'ёзны, павольны, калматы.
А сядзе на квецень у садзе
І, клопатам покуль заняты,
Даецца па спінцы пагладзіць.

Ён Шляхам вяртаецца Млечным
Па небе блакітным і сінім.
Паверыцца: там у гняздзечку
Мне радасці кроплю пакіне.

Кранаюся крыльцаў ахвярна.
Хоць перашкаджаю,
А з высяў
Запахла гаючым нектарам
І гром па зямлі пакаціўся.



## РАДАСЦЬ ГАЛУБІНАЯ

Пад рабінай, поўненькай
Ласкі і святла,
Дожджыкава схованка
Часценька была.

І адной хвілінкаю,
Як сышла вясна,
Радасць галубіная
Высахла да дна.

Аж паслаў на вуліцу
Бог аблок якраз.
Вераб'і цалуюцца,
Нібы ў першы раз.

## НА БЫЛЫМ АЭРАДРОМЕ

Здзіўлены сягоння журавы:
Прынямонскім гаманлівым летам
Што за птушкі неба занялі
Шчучынскае, вольнае дагэтуль?

І прыпомніў даўняе важак.
Круг кантрольны ўзяўшы над крыніцай,
Грозна закамандаваў:
— І так:
Гнёзд не пакідаць.
Глядзець.
Вучыцца.



* * *

А вераб'і, калі захочацца,
Нібыта мы ў дзяцінстве босым,
Адзін купаецца ў пясочніцы,
Другі палошчацца ў нябёсах.

Ах, птушка, дзён маіх прадвесніца,
Ты вучыш зноў мяне без слова
Здзіўляцца,
Радавацца,
Цешыцца,
Любіць
І дбаць
Адначасова.

* * *

*Міхаілу Клеафасу Агінскаму*

Край і асенні, і летні,
Свой
Праз стагоддзі, увішны.
Белыя блякнуць лілеі,
Падаюць чорныя вішні.

А на світанні падасца:
Кветам чырвоныя цэглы,
Светла Агінскага пальцы
Ў просінь над намі пабеглі.

Па-за Віллёй спеюць нівы
Каля дарог ацалела.
Можна прачнуцца шчаслівым,
Нельга,
Каб больш не балела.

І адгукаешся імю,
Што ў навальніцы не счэзла.
Вобраз трывожнай радзімы
Спіць на руках паланэза.



## У ЧАКАННІ

Дажджынка з Божае рукі
Раўня рачулцы на вытоку
Па краі высмяглым такім,
Калі балюча глянуць воку.

Яшчэ паўквадры на зямлі —
І сарамліва ўзыдуць мелі.
Прыпамінаць пачнуць буслы
Шлях,
Па якім да нас ляцелі.

І ля расчыненых варот,
Дзе свет для кожнага зачаўся,
Прыпомніць мушу
Шчыры код
Зямлі і неба,
Свой і часу.

## УСУР'ЁЗ

Апусцілі шлюзы.
І сплылі
Воды стрымгалоў у даль шалёна
Міма ці не цэлае зямлі,
А не толькі берагоў здзіўлёных.

Вернецца з вышынь сюды вада,
Зашуміць, засвеціцца ў гуморы.
А шчупак, сустрэўшы дзесь кіта,
Войкне
І нарэшце загаворыць.



## СЛОВА ВЕРАБ'Ю

Набраў паўнюсенькую дзюбу,
Як мне падняць для аднаго.
Аж паглядзець хвіліну люба
З акна на кемлівасць яго.

Ах, верабей, жывеш ты блізка
Да чалавека, пры страсе.
Ляці хутчэй,
А то вятрыска
Твой скарб па свеце разнясе.

Ляці, пакуль відно і ціха,
Няма прывычнае слаты.
І не сумуе вераб'іха,
Што небарака вечны ты.

А ты найсамы працавіты,
Як ні круці, як ні глядзі.
Гняздо даўно, напэўна, звіта,
Пярынай выслаць — міг адзін.

На добрае дзівіцца годзе
І любавацца мне табой.
Баюся словамі нашкодзіць,
Сурочыць поглядам — тым больш.

І ажывае свет шыпшынай,
Што праз акно аздобіць верш,
Як знічкай кінешся з вяршыні,
То ў неба
Думкай шуганеш.

## ПРАЦЯГ

— Не зачапай, — казала бабка
Пра сон дзіцячы і мяжу.
Цяпер і я для даўняй згадкі
Пра ростань горкую кажу:
— Не зачапіце вы сабою
Юначы сон,
Бо добры ён.
А нас каб не туліў абоіх
Дождж,
Не забудзьце парасон.



## ПТУШКА

Тыя птушкі адспявалі,
Тая радасць адышла.
На зіхотлівым вакзале
Ні сустрэчаў, ні цяпла.

Краю нашага чамусьці
Выракаецца зіма.
І далёка нашы гусі
Адлятаюцца дарма.

Што надыдзе, што спаткае
Ля аблокаў,
У траве,
Пэўна, чуе птушка тая,
Што спявае,
Як жыве.

З ёй, крупінaчкай, прасторна
І спакойна, як нідзе.
Дзень санлівы і агорклы
Пакруглеў, памаладзеў.

Навальніц вучобу слухаў
Ад Пятра да Каляды.
Птушанятам будуць пухам
Памінулыя гады.

## НАРАДЖЭННЕ

Ізноў напомніла ты мне
Аб абаранках і калысцы.
Дзень нараджаецца ў акне,
Як мы — у раніцы калісьці.

Паўнее дзень,
Ушыркі мкне,
Па-за акно наўкола вырас.
Дзень нараджаецца ў акне.
Фліртуе з форткай
Юны выраз.



## У НАВАГРУДКУ

І не стала спакою калі
Па літоўскіх лясах,
Гэты раз
Чым далей ад радзімай зямлі
Будаваўся пакрыўджаны князь.

Каля хваль свіцязянскіх
І тут,
Дзе дубоў пералесак дужэў,
Выбіраў найвышэйшы ён груд,
Каб да Госпада стала бліжэй.

Мы з табою заўсёды маўчым
Ля навагрудскіх ціхіх аблок,
Бо не знойдзем паведаць аб чым,
Бо яздок не праб’ецца здалёк.

Ён вычэквае там, пад гарой,
Не стагоддзе
І нават не два.
…Па абрывах дарогі старой
Патаптаная коньмі трава.

* * *

Не жыў, каб толькі напаказ,
І не цураўся працы ты.
Але ідзе, нібыта князь,
Дзве тысячы шаснаццаты.

Ён у вачах, у галаве
Нясецца электрычкаю.
Няхай хоць лічба пажыве,
Асветлена-магічная.
На гэты раскашовы час
Зямля — святая блудніца.
Але пры мне,
Але пры вас
Усё паўсюль адбудзецца.

Хвілін там хопіць слаўных, дзе
Нам не хапае нечага,
Дзе бусел з сонцам у гняздзе
Ўжываюцца штовечара.

# Вяртанне пчалы

*Паэма*

## РАЗДЗЕЛ 1

Стагоддзі білі ў каланчу,
І адгукаўся брук падковам.
Алесь даўно пра тое чуў,
Аднак не так гучалі словы.
Прыйшла ягоная пара
За думнай партай не адразу.
Настаўнік новы паўзу браў,
Душы чакаючы адказу.
Там, за Замошамі якраз
(Як быццам не было ніколі),
Сцішэў прабіты куляй час,
Дзе Людвік Нарбут сніў аб волі.

Але ж было.
Юнак і борць
Прызнаў-пабачыў днём асеннім,
Спытаўшыся: а што там ёсць,
Ляжыць-гніе на загуменні?
Маршчыністая, нібы твар
У дзеда Вінцука, бывала,
Ці як нябёс сівы абшар,
Калода дзіўная ляжала.
Яе грузілі ўчатырох,
Да сонца ўзносілі калоду.
І пахла цёплае нутро
Яе
Пчалінымі дзікім мёдам.
І вось паставілі калі



Ў абдымкі ліпаў-векавухаў,
Алесь на роднае зямлі
Маўчанне борці прагна слухаў.

### Першы аповед борці

Калі мяне бы гром працяў,
Калі цвілі па вёсках вішні,
Сваім дыханнем да жыцця
Дзед дзедаў абуджаў увішна.
Ён дзень і ноч ля сцен трываў
Маіх,
Што сохлі, млелі, вялі.
І не адзіная трава
Па-нада мною паўставала.
Звінела я, маўчала тут,
Казуркі поўзалі і гады,
І сёння вось найноўшы цуд —
Ты падышоў, рукой пагладзіў.
Праўдзівы, юны ты такі,
Нібы крыніца, нібы высі,
Нібыта даўнія вякі,
Што тут да нас з табой вяліся.
Табе пасуе шчырасць слоў,
Што прызабыліся,
Аднак жа
Не адвярнуўся, падышоў
І побач думаеш пра наша.

Пакуль званкоў і галасоў
Няма.
Ці будуць — невядома,
Прыкрый кулём з-пад каласоў
Мне галаву ад даўняй стомы.
І адагрэецца нутро,
І растрывожыцца пры доме:
Там, за літоўскаю гарой,
Гудзенне крыльцаў маладое.

Як завіхаліся яны
Праз тое лета,
У навалу,
Калі жалобныя званы
Па-над лясамі паўставалі.
Калі ў збаночку мёду нёс
Мой гаспадар на хлеб намазаць,
Калі каваль і ксёндз — быў лёс —
Макалі мёд з талеркі разам.
А пад аховаю ялін
У роздуме, малітвы вартым,
Над мапай краю
Дваранін,
Заступнік краю Людвік Нарбут.
Вёў шлях да Новага Двара,
Праз Котру верную, да Берштаў.
Настала божая пара,
І конь трывожыцца пра нешта.



Мядзведзю кінуў аднаму
Мой гаспадар мяне і пожню.
Праз лета снілася яму
Свая пчала пры стрэчнай кожнай.
Мой гаспадар,
Як на дыбы
Дубы ўставалі да Дубічаў,
І пакланіцца мне забыў,
Паслухаць пчол пакінуў звычай.
Апала ў смутку старана
Букетам красачак і болю.
Пад дрэвам, дзе той дзень канаў,
За ўсіх укленчыў Андрыёлі.
На кладцы слізкай і старой
Стаў гвалт казакаў і гвардзейцаў,
І каб не пчолаў верны рой,
Куды было б ад іх падзецца.
Па старадрэвіне яны
Паўзлі маўкліва да калоды.
А пчолы роем дзень пры дні
Мяне трымаліся і
Мёду.
Тады ж і стрэліў, хоць здалёк,
Чужак, разгневаны нямала.
Не ўратаваўся той стралок
Смяротнай помсты —
Вострых джалаў.

## Другі аповед борці

Было, як з елкі капяжы
Ляцелі, стылі срэбным воскам,
Калі асочнікам служыў
Пры каралю Янук скарбоўскі.
Па пушчы Берштаўскай блудзіў
Мядзведзь-шатун, устаўшы рана,
Ахвоча да літоўскіх дзіў
Была ў лясах глыбокіх панна.
І борці звыклае замест
Пачуўся зверу пах прысмакаў.
І здрыгануўся сонны лес,
Кароль упершыню заплакаў.
Імклівай варце не паспець,
На сонца хмара грозна лезе.
Задраны возчык…
І мядзведзь
Хапае кроў сваю на снезе.

А ў краі чуцен сэрцаў стук,
Каня іржанне,
Посвіст гнеўны.
На лапці вёз сваім Янук
Сцішэлы боцік каралеўны.
Хаціна стылая, але
Ў Скарбах спыніліся падковы.
Пад абразамі на стале
Там пахла мёдам верасковым.



Было, здаецца, не са мной,
Але пры мне, пры юнай, можа:
Да борці кожнаю вясной
Ішоў задумлівы вяльможа.

## Трэці аповед борці

І стала мне пад сто гадоў,
Сама сябе не пазнавала.
Твой дзед да мудрых пчаляроў
Каля мяне дажыў памалу.
Для тых, хто прыйдзе маладзей,
Дзяўбаў ён свежую калоду.
Аж тая трапіла ў музей,
Не наслужыўшыся ў ахвоту.
І не забудзецца, калі
Адною чэрвеньскай нядзеляй,
Ледзь сны ўзляцелі ад зямлі,
Трывожна пчолы загудзелі.
Каціўся незвычайны гром,
Не з вышыні, далёкі, рэдкі,
А па зямлі і пад акном,
Між людзей і па палетках.

Так стала гора навакол
Каму на міг,
Каму навекі —
Апаленыя крыльцы пчол,
Вачэй апаленыя вейкі.
Ізноў над Котраю лясы

Ўсяму жывому сталі домам,
Як нават драч загаласіў
На ўскрайку песняй незнаёмай.
Тады ж прыйшла для пчол пара:
Калі зімою спалі чуйна,
Дыхнула не ад дымара,
Ад Агародзішчаў цягнула.
Ад тога дыму не змаглі
І людзі з пчоламі прачнуцца.
Азвацца болей той зямлі
Ні словам нельга,
Ні пачуццем.

Пчаляр там ходзіць.
Кажуць, ён
Чакае нібыта кагосьці.
І не прытуліцца здавён
Да родных сцен,
Да вечнай борці.

## Чацвёрты аповед борці

Алесь, ты помніш, той вясной,
Пасля зацьмення і завеі,
Па-над забытай светам,
Мной
Нанова крыльцы зазвінелі.
Духмяна вечары плылі,
Заплюшчыць вейкі немагчыма.
І быў прылёт адной пчалы



Вяртаннем сонца
І Айчыны.

Жыву то гордая, то ніц
Схіляю голаў часам нейкім.
Загадка паміж таямніц
Я для сябе сама спрадвеку.
Настаўнік твой…
Ён нездарма
І малады, і дужа ранні.
Ты памятай яго імя
І словаў цвёрдае гучанне.
Маламажэйкаўскай царквы
Не чуў ты,
Жыў хоць побач з ёю.
І ўпершыню маўчалі вы
Каля Сафійкі над Дзвіною.
Рубіў заўзята князь з пляча
Крыжакам медныя галовы.
І Грунвальд многа год маўчаў
За пушчай Берштаўскай суровай.
Нясвіж і Мір,
Як той сувой,
Сплывалі ўдаль па непагодзе.
І каб не ён,
Настаўнік твой,
Дзічэць гадам
І гніць калодзе.

## РАЗДЗЕЛ 2

### Пяты аповед борці

А мне гадоў, як каласоў.
Але адно трымае-лечыць —
Калі змяняе час усё
Па ласцы Божай,
Чалавечай,
І па руплівасці святой
Маленькай пчолкі і мурашкі,
Казулі і сінічкі той,
Што дзень прыгожылі ўчарашні.

А сёння ўзбагаціла нас
Чаромха кветам
І крыніца.
Ды неба сіняе якраз
Дае вачам усмак напіцца.
Не варта папікаць зязюль
За шчодрасць веснавую,
Бо кожная ані з адкуль
Гадоў нікому не шкадуе.
Ты сам глядзі, як пражывеш
Паміж грымотамі і раем.
Складзеш зямлі радзімай верш
Ці злыдню ты папатураеш.
Па лыжцы радасць падзялю,
І будзе ў кожнага свой вулей,



Каб цешыць пчолкаю зямлю
Ці кукаваць паўсюль зязюляй.

Па берагах Краскова вунь
(Гарачы поўдзень смягнуць змусіў)
Цвітуць азалія, багун —
Вечназялёныя спакусы.
І п’е, хмялеючы, дурман
Пчаліны рой
Гарачым летам,
Каб побач з сонцам
Плыў туман
Па нечаканым свеце гэтым.
Каб з сумам побач
Вёўся смех,
З маршчынкамі жылі маністы.
І каб дарогу перабег
За чорным
Коцік залацісты.
Спатканае табой усё
Пад зарапад ужо,
Пад восень,
Каб мёдам нам не падалося
Непрадказальнае жыццё.

### Шосты аповед борці

Сам Бог хіба што награшыў,
Як здраду не караў наводдаль.
Якое свята для душы

Без нас з табой, Алесь,
Без мёду.
На ўзмежку ліпеньскай пары,
На беразе, пад вербай ніцай,
Аж да вячэрняе зары
Нам давялося запыніцца.
У Шчучыне — час кветак,
Ян.
І сумаваць пад сонцам годзе.
П'е медавуху смачна там
Аж дваццаць першае стагоддзе.
Такі ты горды ўпершыню
Сабой, і мною, і прычынай.
Хоць я, спрадвечная, маню,
Мне не паверыць немагчыма.
Маню пра шчасце ўсе гады,
Бо цераз край было
І пуста.
А мёд праўдзівым быў заўжды
На кветках, словах і на вуснах.
Нам зразумець даўно пара —
Каму цікава-нецікава,
Што мёд іскрысты не сабраць
З таемных зор,
Са слоў-бліскавак.
Ён з кветак свежых, што прынёс
Ты ёй аднойчы часам раннім
З-пад тумаfноў і золкіх рос
І з-пад грымучага маўчання.



Бывае так — гарчэе мёд
Хвілінай роспачнай.
Ад лета
Тады з табою доўгі год
Чакаюць пчолы першацвету.

І зноў жыццё за далячынь
Ірвецца, крыламі махае.
І ні падумаеш аб чым —
Паўсюдна вольніца такая,
Якой ураз не зразумець
Непаслухмяным дзікім сэрцам.
Пакуль наноў галінаў медзь
Пляча пад вечар не кранецца.

## Сёмы аповед борці

Другі камфорт,
Сучасны шык
Галандскім пчолам і каўказскім.
А вабяць, цягнуць іх усіх
Даўно даспеленыя краскі.
Слупоў памежных ім няма.
Закон ва ўсім астатнім строгі:
Ёсць толькі лета і зіма,
Ёсць толькі дом
І ёсць дарогі.
Але празорцамі не раз
Па пунктах даўняе маралі
Прылюдна, гнеўна, напаказ,

Бывала, неслухаў каралі.
Калі зацьменне надышло
І не было збавення, сілы:
У школцы нашае
Святло
І сонца ў вокнах загасілі.
Сасмягнуў масленічны блін,
І Дзед Мароз панік за даллю.
Самотна пліскі, вераб'і
Па туях гнёзды пакідалі.
Я заставалася адна
Між ліп, бярозаў, вязаў вялых.
І паланэза дапазна
Ў двары мелодыя гучала.

А я не веку аднаго
Вяселляў, хрэсьбінаў, хаўтураў —
З гаспадаром,
Каб час яго
Падсаладзіць, калі пануры.
Паставіць міску мёду ён
На стол суседавы ад сэрца.
І колькі стане потым дзён,
Іх узаемнасць не звядзецца.



## РАЗДЗЕЛ 3

### Восьмы аповед борці

Высокі міг,
Як пойдзе сок
І дол пазбавіцца ад стомы.
Святы той час, калі здалёк
Пчала вяртаецца дадому,
Крупіцу неба несучы,
Расінку добрай небыліцы.
Гудзе, імклівая, аб чым
Нікому невядома быццам.
А прыслухоўваюцца ўсе:
Пчала ляціць,
Пчале дарогу,
Святлу дарогу і красе,
Яшчэ гадам наступным многім.

Спазнаў і ты, як быў малы
І потым, да жыцця ахвочы, —
Для чалавека і пчалы
Цвіце зямля на год аднойчы.
Ізноў вясна паспела, хоць
Пазжата толькі ўчора пожня.
Жыве ва ўсім наўкола борць
Ад першай думкі
Да апошняй.

## Дзявяты аповед борці

Я прадчуваю, што мае
Панадакучылі ўспаміны.
Ім ласкі нашай не стае,
Ва ўсім прызнанне жыць павінна.
Яшчэ нядаўна тут стаяў
Пчаліны домік каля дачы.
Як раніцы чакала я,
Каб светлы лік яго пабачыць.
Ён добрых зайчыкаў пускаў
Вясёлым дахам каля поўдня.
І хвалявалася рака,
Зайздросцячы сягоння.
Як добра, хораша нам двум
Было, калі над блізкім вязам
За лес высокі,
На Літву
Ляцелі нашы пчолкі разам.
Калі вярталіся назад,
Вячэрнім птахам вулей дзінькаў,
А раніцою мне быў рад
Махнуць кляноваю галінкай.

Усё канчаецца ўсур'ёз
Па волі дзён і без нагоды,
Бо гаспадар, як і прывёз,
Забраў той вулей назаўсёды.
Праходзіць лета.
Сонца мкне



Да стрэх, далоняў і да крылаў.
А ад яго патрэбен мне
Адзіны зайчык палахлівы.
Часіна светлая тады
Паваражыць мінае рэдка
І пра Алесевы гады,
І пра стагоддзі
Чалавека.

## Дзясяты аповед борці

Далей не станем маладзей
Пад парасонам вечна сінім.
Як Бог высокі для людзей,
У пчол заступнік быць павінен.
Яны дзічэюць без рукі
Разумнай, мудрай, гаспадарскай.
Ляцяць у тлумны век такі,
Палі мінаючы і краскі.
Сядае сіратліва рой,
Свайго не маючы прытулку,
Куды папала за гарой.
Ці будзе лепш,
Ці стане мулка…

Аднак вярнуліся шпакі,
Алесь,
І заірдзелі смолы.
З тваёй спагадлівай рукі
Я падзівілася наўкола.

Прыходзь з сябрамі,
Стрэну вас.
Мёд застанецца
Дбайным мёдам
І цераз год,
І цераз час,
Як праўда наша,
Як свабода.
Ты проста памятай, што ёсць,
Апроч святых і вінаватых,
Цяпло,
Якім багата борць,
Чым душы нашыя багаты.



# ЗМЕСТ

**Восень, ты і я**

**У святле палаца**

*Літаратурна-мастацкае выданне*

**Бялячыц** Рычард Станіслававіч

**ВЯРТАННЕ ПЧАЛЫ**

*Вершы, паэма*

Адказны за выпуск *Г. Вінярскі*
Рэдактар *А. Спрытніч*
Вёрстка *Л. Гарадзецкай*
Карэктар *А. Спрытніч*

Падпісана да друку 30.03.2016. Фармат 70х90 1/32.
Папера афсетная. Ум. друк. арк. 5,1.
Ул.-выд. арк. 4,19. Наклад 150 ас. Зак. .

ПУП «Кнігазбор».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы, распаўсюдніка друкаваных выданняў № 1/377 ад 27.06.2014.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
**Тэл./факс (017) 207-62-33,**
**тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.**
E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка ў ААТ «Аргбуд».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы, распаўсюдніка друкаваных выданняў № 2/182 ад 15.02.2016.
Вул. Берасцянская, 16, 220034, Мінск.